# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 27 верасня 1994 года

№ 103 (10803)

Цана 30 руб.


## МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ: ВЫНІКІ ПЕРШЫХ АЎКЦЫЁНАЎ

Праблемам малой прыватызацыі была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася ў Міністэрстве па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю Рэспублікі Беларусь пры ўдзеле Міжнароднай фінансавай карпарацыі. Журналістам, па сутнасці, былі прадстаўлены першыя вынікі работы з пачатку працэсу прыватызацыі на Беларусі. Бо менавіта ў верасні мінулага года адбыўся першы ў рэспубліцы адкрыты аўкцыён у рамках праграмы малой прыватызацыі.

Усяго ж за прайшоўшы час пры ўдзеле МФК у рэспубліцы было праведзена 12 аўкцыёнаў, на якіх прададзена 87 аб"ектаў агульнай плошчай 41.826 квадратных метраў на суму 4 мільярды 674 мільёны 280 тысяч рублёў ( з улікам дэнамінацыі). Гэтыя сродкі былі выкарыстаны для рэалізацыі сацыяльных праграм: будаўніцтва бальніц, жылля, паляпшэння работы аб"ектаў камунальнай гаспадаркі, транспарту і г.д. Аўкцыёны паказалі, што гэта найбольш справядлівы спосаб прыватызацыі, а таксама магчымасць знайсці найлепшага гаспадара прадпрыемству.

На пытанні журналістаў адказвалі намеснік міністра К.Э.Раманоўскі, адказныя работнікі міністэрства, а таксама кіраўнік праекта МФК па малой прыватызацыі ў Беларусі і на Украіне Стэфан Мілер і кіраўнік праекта МФК"Малая прыватызацыя ў Беларусі" Кэрын Янг.

/Наш кар./.

■ Зарплата

## У ЛАДКІ НЕ ПЛЯСКАЛІ

Расце наша зарплата, ды яшчэ як! Скажам, за восем месяцаў яна павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 15,7 раза. Дык чаму ж тады не пляскаем у ладкі і не крычым «ура»?

Аказваецца, не дазваляе наша пустая кішэня, якую ніяк не напоўніш сваім заробкам. Бо рознічныя цэны на тавары народнага спажывання і платныя паслугі насельніцтву за гэты перыяд узраслі ў 27 разоў. Так што не разгонішся пры 43,9 тысячы рублёў у месяц, як выйшла ў сярэднім за студзень-жнівень.

Сярэдняя зарплата работнікаў у жніўні склала ў цэлым па вобласці 85,8 тысячы рублёў. У рабочых і служачых яна раўнялася 93,3 тысячы, калгаснікаў — 62,2. Першынство трымаюць прадпрыемствы і арганізацыі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і збыту — 137 тысяч. Далей ідуць будаўнікі — 127,5, работнікі крэдытавання і страхавання — 117,6, прамысловасці — 106,2 тысячы рублёў.

Па-ранейшаму нізкай застаецца зарплата работнікаў сацыяльнай сферы — 47,9 тысячы рублёў, невытворчых відаў бытавога абслугоўвання насельніцтва — 49,4, мастацтва — 51,5, культуры — 53,4, навукі і навуковага абслугоўвання — 58,7.

Адна гадзіна рабочага часу ў жніўні каштавала 547 рублёў. У тым ліку рабочым і служачым аплачвалі 632 рублі, калгаснікам — 339.

## НА РЕШЕНИЕ НАРОДА

Создана инициативная группа по проведению республиканского референдума. Ее возглавила Людмила Павлович. В соответствии со статьей 10 «Закона о народном голосовании /референдуме/ Республики Беларусь» предлагается вынести на рассмотрение граждан следующие вопросы:

1. Вы «за» или «против» денонсации /расторжения/ Беловежского соглашения, объявившего, что прекращается действие заключенного в 1992 году Договора об образовании Союза Советских Социалистических Республик?

2. Вы «за» или «против» частной собственности на средства производства, в том числе на землю, неизбежно обогащающей предпринимателей за счет обнищания трудящихся?

3. Вы «за» или «против» введения русского языка в качестве государственного наравне с белорусским?

4. Вы «за» или «против» того, чтобы возвратиться к рассмотрению вопроса о государственной символике, поскольку он был рассмотрен без всенародного обсуждения?

Центральная комиссия по референдумам Республики Беларусь приняла от инициаторов для регистрации необходимые документы, оформленные согласно Закону о проведении республиканского референдума.

/Наш корр./.

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## ШАГ К СОТРУДНИЧЕСТВУ СДЕЛАН

Что мы знаем о Норвегии? Далекая страна, практически неизведанная. Познания завершаются видеозрелищем норвежской селедки, которой в изобилии на прилавках. Сотрудничаем мы в основном с европейскими странами, которые поближе к нам.

И вот — первая ласточка. Визит в Минск представительной делегации графства Северный Трённелаг. Возглавил ее губернатор Кульберн Алмли. В составе делегации также председатель исполнительного комитета лидер Рабочей партии, ректор сельскохозяйственного колледжа, руководитель проектов по сотрудничеству с Восточной Европой. Цель визита — подписание Договора о дружбе и сотрудничестве между Минском, столичной областью и графством Северный Трённелаг.

Гости не увлекались посещением достопримечательных мест. Их больше интересовало истинное положение дел в Минске и столичной области. Знакомство было не визуальное, а насыщенное, деловое. Представители Норвегии желали знать, во что вкладывать деньги и стоит ли это делать.

В минувшую субботу цель визита была достигнута. Завершилась она подписанием Договора о дружбе и сотрудничестве. Не было здесь популистских заверений в том, что решилась на это Норвегия из-за великой любви к нам и желания помочь. На равных заключалась договоренность о партнерстве. Оно найдет продолжение в самых различных областях, таких как экономика, промышленность, сельское хозяйство, торговля, культура, здравоохранение и т.д. А начинаться будет, скорее всего, с совместного строительства жилья. Это реальные проекты, жизненно важные для республики. Кстати, в Минске созданы и действуют более тысячи совместных предприятий, которые успешно сотрудничают на взаимовыгодных условиях. И столичной области есть что показать на норвежских рынках. Конкурентоспособными стали наши фотоаппараты, стрелковое оружие, приборы ночного видения. Около двух миллионов тонн калийных удобрений реализуется на экспорт. Только из-за отсутствия соответствующей рекламы нас не знают за рубежом. Но это дело поправимое.

Шаг к сотрудничеству сделан. Следующий шаг — воплотить его в жизнь

*Ирина АНДРЕЕВА.*

■ Мясцовая ўлада: дзень за днём

*Галіна КУТАС:*

## РАСЧАРАВАЛАСЯ Я Ў ДЭПУТАЦКІМ ЗВАННІ...

**Старшыня выканкома Ільянскага сельскага Савета дэпутатаў, дэпутат абласнога Савета Галіна Віктараўна Кутас мае свой, далёка не ардынарны погляд на выкананне дэпутацкіх абавязкаў, на развіццё мясцовага самакіравання, дзеянне уладных структур. Паслухаем яе.**

— Пяць гадоў работы ў мясцовым і абласным Саветах — гэта немалы тэрмін. Можна адчуць задаволенасць. Можна і расчаравацца. Са мной здарылася менавіта апошняе. Не думаю, што ўдалося кардынальна ўплываць на ход жыцця маіх выбаршчыкаў. А хацелася. Асабліва калі на альтэрнатыўнай аснове стала абласным дэпутатам. Людзі даверылі таму, што верылі. І старалася. Была нейкая эйфарыя ад глабальных перамен, думалася, што новыя законы, прынятыя Вярхоўным Саветам, дадуць прастору для творчасці, ініцыятывы нам, дэпутатам, кіраўнікам уладных структур мясцовага ўзроўню.

Я і мае калегі шмат надзей ускладалі на Закон аб мясцовым самакіраванні.

А што змянілася? Пры таварным дэфіцыце мясцовыя Саветы былі размеркавальнікамі тавараў сярод ільготных груп насельніцтва. Пасля прыняцця новага закона ў штаце выканкомаў паявіліся землеўпарадчыкі. Мы сталі размяркоўваць зямельныя надзелы. Але без грошай, без сродкаў як былі, так і засталіся марыянеткамі ў руках сістэмы.

Сёння ў новай інтэрпрэтацыі загучаў стары афарызм наконт кадраў, якія вырашаюць усё. І вось, з падачы прэзідэнцкай каманды, пачынаецца своеасаблівая чыстка кадраў. Мяняюцца вышэйстаячыя кіраўнікі. Думаю, чарга дойдзе і да нізоў. А сэнс які? Няўжо нельга выкарыстаць ранейшы кадравы патэнцыял? Я бяру ў якасці прыкладу наш рэгіён. Людзі на сваіх месцах. Няхай працуюць. Хто не зможа ісці ў нагу з часам, выскачыць сам. Але не трэба абмяжоўваць кіраўніка дзесяткамі ўмоўнасцей, трэба даць яму рэальную самастойнасць. А то атрымліваецца, што ад самога работніка па-сапраўднаму нічога не залежыць.

Неяк на нарадзе старшыня аблвыканкома пакрытыкаваў мяне і Савет за знешні выгляд пасёлка: маўляў, прыходзіць Ілья ў заняпад. Ну што ж, прыходзіць. А што сёння ў нашым жыцці квітнее? Стаўшы старшынёй Савета пяць гадоў назад, я пастаралася, каб і вуліцы падрамантаваць, і платы паставіць. І могілкі абгарадзіць... І якое абыходжанне з усім гэтым? Мы не былі сапраўднымі гаспадарамі і не навучыліся імі быць. А няма гаспадара — няма з каго і спытаць.

Колькі часу я стараюся вырашыць праблему вывазу смецця. Ёсць і месца для звалкі, і людзі папярэджаны. Але прыходзіць час, гаспадар за тачку — і ў бліжэйшы лясок. А што рабіць пенсіянеру, калі да той звалкі яму не дабрацца, а сельсавет, не маючы транспарту, не можа вырасціць яго ў тых, хто мае?

А якая існуе сістэма мер уздзеяння на парушальнікаў? Па-першае, з-за непамернай інфляцыі Адміністрацыйны кодэкс старэе не па днях, а па гадзінах. Ды і тыя смешныя штрафы, якія мы можам накласці, выклікаўшы парушальніка на пасяджэнне адміністрацыйнай камісіі, часта не выплачваюцца. Сістэма прымусовай выплаты адсутнічае. Зноў мы без рэальнай улады.

Мінуў той час, калі на голым энтузіязме нешта можна было будаваць. Што, у вярхах гэтага не разумеюць? Сёння студэнты мясцовага тэхнікума абураюцца: маўляў, чаму гэта мы павінны падмятаць пасялковыя вуліцы замест таго, каб вучыцца? І яны маюць рацыю. Кожнаму трэба займацца сваёй справай.

А вось кіраўнікі вышэйшага рангу, прыязджаючы на месцы, замест таго каб сесці ды пагаварыць з намі на роўных ды, можа, і параіць што, прывыклі пакрыкваць, выяўляючы недахопы. Я і сама іх, недахопы гэтыя, добра ведаю. А што рабіць? Дзе шукаць выйсце? Неаднойчы даводзілася чуць, што некаторыя Саветы нібыта ўхітраюцца вырашаць матэрыяльныя праблемы сваіх людзей за кошт пазабюджэтных сродкаў. Вось, маўляў, якія: з нічога бяруць грошы! А ўсё тлумачыцца вельмі проста. Ну, ідуць на дапамогу згаворлівыя кіраўнікі гаспадарак, ну, дапамогуць пасеяць, выбраць. Але ж любыя затраты закладваюцца потым у сабекошт прадукцыі. Навошта нам падманваць саміх сябе?

Нядаўна наш раён заслухоўвалі на прэзідыуме абласнога Савета. Старшыня райвыканкома рабіў планавую справаздачу аб рабоце з дэпутатамі. Мяне здзіўляе гэтая традыцыйная пастаноўка пытання. Хто такі дэпутат? Чалавек, які даў згоду балаціравацца ў Савет, якому аказалі давер і які, пэўна ж, клапоціцца аб сваім аўтарытэце сярод выбаршчыкаў. Навошта ж нам прымушаць яго вывучаць законы, сачыць за грамадскімі зменамі? Няўжо ён сам не здольны паклапаціцца аб сваім інтэлектуальным узроўні, няўжо яго трэба літаральна падштурхоўваць да грамадскай дзейнасці?

Таму я поўнасцю падтрымліваю намер прэзідэнта наконт ліквідацыі на месцах дэпутацкага корпуса. Улада павінна быць мабільная і жыццядзейная. Трэба не пісанінай займацца, а канкрэтнай работай. Павінна быць дакладнае размежаванне кампетэнцыі, павінен існаваць механізм уздзеяння на мясцовых кіраўнікоў. Пакуль жа ён ляжыць у сферы эмоцый і асабістых адносін. Вось і атрымліваецца, што Савет не мае магчымасці канкрэтна ўплываць на ход жыцця.

Вось чаму я не зусім задаволена сваёй дэпутацкай дзейнасцю на працягу гэтых пяці гадоў. Я магла б зрабіць намнога больш, каб іншы быў механізм рэалізацыі ўлады, каб ён быў заснаваны на законе, а не на асабістых узаемаадносінах кіраўнікоў выканкомаў з тымі, хто мае грошы і сродкі. Гэта несправядліва.

*Запісала Марыя КУЗАЎКІНА.*

Фотарэпартаж

## "ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ–94"




У МІНУЛЫЯ ВЫХАДНЫЯ ў Мінску праводзілася свята ўраджаю "Залатая восень-94". Ля Палаца спорту, каля Камароўскага рынку, кінатэатра "Кіеў", у мікрараёнах Серабранка, Уручча, Чыжоўка і ў іншых месцах былі наладжаны кірмашы па продажу агародніны, садавіны і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. Пакупнікоў абслугоўвалі работнікі спажывецкай кааперацыі амаль з усіх раёнаў Міншчыны, асобныя калгасы і саўгасы. Гучала музыка, выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці.





**На здымках:** рыбак з доследнай гаспадаркі "Волма" Мікалай **Галубец;** каапeратары з Пухавіцкага раёна Рэгіна **Каліскарова** і Антаніна **Чэшка** запрашаюць на шашлыкі.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ГАРАДОЦКІЯ ВІТАМІНЫ

Бадай, як ніколі спраўна працуе сёлета агароднінны канвеер саўгаса "Гарадок". Асноўную частку вітаміннай прадукцыі саўгасныя агароднікі адпраўляюць у Кастрычніцкі аптова-рознічны плодаагароднінны камбінат г.Мінска. Сюды пастаўлена ўжо 90 тон морквы і сталовых буракоў і шмат чаго іншага, саўгасная каса папоўнілася на 40 мільёнаў рублёў.

Ці вартая гэтая сума прыкладзеных вяскоўцамі сіл?

— Усе затраты акупіліся спаўна, — лічыць намеснік дырэктара саўгаса па вытворчасці В.А.Шут. — Мы пераканаліся, што вырошчваць агародніну больш выгадна, чым здабываць мяса ці малако. Тым больш што наша гаспадарка спецыялізаваная.

Пэўную частку вырашчанай прадукцыі "Гарадок" рэалізуе сталовым, дзіцячым садкам раёна. А вось з раённым гандлем сябраваць нявыгадна: закупачныя цэны тут удвая ніжэйшыя, чым у сталічных гандляроў. Таму наўрад ці ў бліжэйшы час паласуюцца жыхары райцэнтра "гарадоцкімі вітамінамі".

Шкада. Цыбуля, агуркі і памідоры, што неяк "перапалі" райцэнтру, знікалі з магазінных прылаўкаў даволі хутка...

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ. Уздзенскі раён.*

## СУДДЗІ НАДЗЕЛІ МАНТЫІ І ЗАВЯРШЫЛІ ПЕРШУЮ СПРАВУ

Адбылося першае судовае пасяджэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь. На ім разглядалася пытанне аб адпаведнасці Канстытуцыі норм Кодэкса законаў аб працы, якія рэгламентуюць звальненне людзей з работы пасля дасягнення пенсіённага ўзросту па ініцыятыве работадаўцы.

Суддзі з"явіліся перад прысутнымі ў чорных судзейскіх мантыях, і гэта адразу стварыла ў зале атмасферу, у якой пануе толькі Закон. Пасля таго як намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня адкрыў пасяджэнне, эпіцэнтр увагі перамясціўся на спецыяльна запрошаных экспертаў — вопытных юрыстаў, якія дэталёва вывучылі справу і прадставілі суду свае заключэнні. Пытанняў ім зададзена было многа і па сутнасці. Вельмі доўга ішла размова аб кампенсацыях. Таму што калі суд прызнае разглядаемыя нормы КЗаП неканстытуцыйнымі, то звальненне пенсіянераў трэба будзе прызнаць незаконным. Тады хто і якую кампенсацыю павінен ім выплаціць за вымушаны прагул? Як іх потым зноў уладкаваць на работу? Выказваліся і меркаванні аб тым, што гэтыя нормы працоўнага заканадаўства супярэчаць не толькі артыкулу Канстытуцыі, які гарантуе грамадзянам права на працу, але і артыкулам аб праве на жыллё і свабоду перамяшчэнняў.

А віцэ-прэм"ер Віктар Ганчар, які прысутнічаў на пасяджэнні, заявіў аб тым, што такія пытанні неабходна разглядаць не ў Канстытуцыйным судзе, а ў парламенце і нядрэнна было б уключыць гэтае пытанне ў парадак дня маючай адбыцца сесіі.

Тым не менш пасля паўтарагадзіннай работы суддзі пайшлі на нараду для падрыхтоўкі заключэння.

Пасля нарады была прадоўжана карпатлівая работа, вынікам якой з"явілася заключэнне Канстытуцыйнага суда. У ім, у прыватнасці, прызнана неадпаведнасць Канстытуцыі нормы артыкула 18 прым. і пункта 1 прым. артыкула 33-га Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць скасавання працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка ў сувязі з дасягненнем работнікам пенсіённага ўзросту. Органам дзяржаўнай улады прадпісана ў трохмесячны тэрмін прывесці гэтыя акты ў адпаведнасць з Канстытуцыяй. Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця і адмене або абскарджанню не падлягае.

*БЕЛІНФАРМ.*

## СЯБРУЕМ З БАХУСАМ, ПАСВАРЫЛІСЯ З АФРАДЫТАЙ

Па-ранейшаму трывожныя лічбы знаходзім мы ў прэс-выпусках абласнога ўпраўлення статыстыкі. "Крывая" паўзе ўгару па многіх паказчыках.

Калі за паўгоддзе 1994 года /як паведамляла ўжо "Мінская праўда"/ колькасць нованароджаных у параўнанні з адпаведным леташнім перыядам знізілася на 4, то за сем месяцаў — на 4,5 працэнта. Тое ж і ў "царстве" Гіменея — адпаведна 13,9 і 14,9 працэнта.

У гарадскіх пасёлках нарадзілася 5.601, а ў сельскіх — 4.702 хлопчыкі і дзяўчынкі. Прычым, вяскоўцы ідуць на такі сур"ёзны крок радзей, чым гараджане: у параўнанні с студзенем-ліпенем 1993 г. нараджальнасць у гарадскіх пасёлках знізілася на 3,7, а ў сельскіх — на 5,2 працэнта. Аднак рэзка падае яна ў Капылі, Клецку, Мар"інай Горцы, пасёлках гарадскога тыпу Плешчаніцы, Свіслач.

Памерла за сем месяцаў 13.807 жыхароў Міншчыны, в ўзросце да года — 133 малышы. Павялічылася смяротнасць ад цукровага дыябету, хвароб кровазвароту і нырак.

Асаблівую трывогу выклікаюць лічбы, што тычацца смярцей, якіх магло б і не быць. 379 чалавек добраахвотна пакончылі з сабою, 100 — былі забітыя. А вось на гэты факт варта звярнуць увагу тым , хто сябруе з Бахусам. 188 жыхароў Міншчыны загінулі ад празмернага ўжывання алкаголю.

*Наталля ТУМАР.*

■ Цікавы субяседнік

## Іван Чыгрынаў:

# МЫ ЯШЧЭ ЗБЯРОМСЯ ВЯЛІКАЙ СЯМ"ЁЙ

**Раманы Івана Чыгрынава нельга чытаць без хвалявання і зараз, калі мінула гэтульki гадоў пасля Вялікай Айчыннай... Прычына тут, канешне ж, у пісьменніцкім таленце. А яшчэ ў тым, што лёс нашага беларускага народа пранізаны той вайною наскрозь. І гутарка з Іванам Гаўрылавічам — пра стрыжань ваеннага ліхалецця, што працяў усё нутро беларускай літаратуры.**

*— Іван Гаўрылавіч, тэма Вялікай Айчыннай не пакідае старонкі вашых кніг. Чаму?*

— Вайна была самай галоўнай падзеяй у маім жыцці. І не толькі ў маім. Чалавек у ёй быў як на далоні. І сама па сабе філасофія вайны цікавая для пісьменніка. У ёй усё праяўляецца. І чалавек, які ён ёсць, і сістэма, і лад, і традыцыі. Сапраўды ўсё праяўляецца. Найбагацейшы матэрыял для роздуму. Гісторыя вайны — не толькі вопыт, але і навука. Шкада, што мы дрэнна вучымся, здавалася б, у жыцці, у гісторыі нашай усё было. Усякага хапала. Але шмат што паўтараецца.

Быццам не было той навукі. Вось і дзяржаву сваю невядома як страцілі, у якой ужо і не так дрэнна жылося, ва ўсякім выпадку — лепей, чым цяпер. У новай сваёй цяперашняй гісторыі, канешне, мы нямала набылі, але страцілі больш. І не ведаем, як выйсці на сухі бераг з гэтага балота. Найперш — з эканамічнага балота.

Бачыце, слаба вучымся. Я часам думаю: каб надарылася магчымасць паўтарыць — пайшлі б на гэты паўтор. Забыліся пра тое, што жылі, вучыліся, нарэшце — ваявалі. Гэта была пара не толькі нашай бяды, нашага гора, але і пара нашай славы.

Адказваючы на гэтае пытанне, можна доўга гаварыць па сутнасці — і ўсё будзе дарэчы. І зноў паўтаруся. Мінулая вайна была для мяне самай важнай падзеяй. І тым не менш бывае і такое ўражанне, нібыта я з гэтай ваеннай тэмай, са сваёй вайны трапіў у даўні дождж і ўсё стаю пад ім. А тым часам іншыя даўно выйшлі з дажджу, паспелі абсохнуць. Але гэта, відаць, толькі асабістае адчуванне.

Не толькі для мяне блізкая і дарагая гэтая падзея — Айчынная вайна. Вы паглядзіце, як людзі сустракаюць святы, звязаныя з нашым вызваленнем, з нашай Перамогай, як святкуюць, — значыць, яшчэ доўга мы будзем звязаны маральна з тымі падзеямі, далёкімі ад сённяшняга дня.

*— Іван Гаўрылавіч, чытаю кнігі трыццаці-саракагадовых нашых пісьменнікаў і рэдка знаходжу творы, прысвечаныя барацьбе беларускага народа з фашысцкімі захопнікамі. Чаму так, на ваш погляд?*

— Наша літаратура паспяхова папрацавала на тэме вайны. У той шматнацыянальнай літаратуры Савецкага Саюза, пра якую з гордасцю гаварылі, беларускім пісьменнікам з іх тэмай Вялікай Айчыннай аддалі шмат увагі. Нашу літаратуру проста высока цанілі.

Спярша і мне здавалася: адпішуць удзельнікі вайны — і гэты ручай, які біў з крыніцы ваеннай, перапыніцца. Але прыйшло пакаленне, якое бачыла вайну вачыма дзяцей. Колькі яны — дзеці — далі літаратуры... У Расіі — таксама. Прадстаўнікі нашага пакалення па-свойму распрацавалі ваенную тэму і на Украіне, і ў Літве, і ў Грузіі, і ў Эстоніі... Не стала шматнацыянальнай нашай літаратуры... А разам са стратай паняцця мы шмат яшчэ чаго страцілі. Ва ўсякім выпадку маладыя нашы пісьменнікі альбо дрэнна нашы кнігі аб вайне чыталі, альбо яна, вайна, перастае ўжо трывожыць людзей.

Дык не ж, ідуць войны на тэрыторыі былога Савецкага Саюза і цяпер. Здавалася б, варта непакоіцца, каб яны не перакінуліся і на іншыя рэспублікі. Але ж няма ранейшага неспакою, хвалявання.

І маладое пакаленне пісьменнікаў не мае цяпер такой цягі да вайны. Больш таго, ім настойліва даводзяць, што Вялікая Айчынная — гэта ніякая не Вялікая Айчынная, а, маўляў, гэта звычайная бойня, якую наладзілі Сталін і Гітлер. А народ дарэмна гараваў і ваяваў. У рэшце рэшт краіны, за якую ён ваяваў, ужо сапраўды няма. Нельга павярнуць гісторыю назад...

Маладое пакаленне не збіраецца рабіць ваенную тэму сваёй. Датычыць гэта не толькі пісьменнікаў, а ўвогуле моладзі. Мы не паспелі зглядзець, як яны раптам знявёрыліся. Народ, веру, вернецца да сваёй памяці. Дакладней сказаць, — ён і не адыходзіў...

А паколькі будучыня народа — маладое пакаленне, то трэба спадзявацца, што яно яшчэ абразуміцца. І тады героем новага часу стане не дзяцюк з пліткай шакаладу ў руцэ, а сапраўдны стваральнік новага ладу на нашай зямлі.

Чаго б я хацеў ад літаратуры цяперашняй? Каб яна ўсё такі паказала механіку разбурэння вялікай Савецкай дзяржавы. Як гэта рабілася. І не дзеля таго, каб склаcці гэтую дзяржаву нанава, а проста для супакаення душы і нават на будучыню. Так што не так ужо вінаватае цяперашняе пакаленне, маладое пакаленне, як невінаватая і Камуністычная партыя, якой здрадзілі праваднікі і якую падманулі.

*— Пра што ж яшчэ, пішучы аб вайне, вы не расказалі, не змаглі расказаць?*

— Канешне, і наша пакаленне не ўсё напісала пра Вялікую Айчынную... Хоць, з другога боку, калі сабраць у адно цэлае кнігі пра той час, то яны адкажуць, бадай, на ўсе пытанні, якія паўсталі альбо паўстануць перад чытачамі. Але ж на тое і жыццё з яго рознымі катаклізмамі, каб быць глыбокім і бясконцым. Думаю, што і праз 50 гадоў яшчэ прыйдуць пісьменнікі, якія нешта новае прынясуць у асвятленне тэмы вайны. Ды я і сам адчуваю нясконачнасць сваёй працы. Дарма што напісаў нямала. Гэта не толькі раманы "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя", "Вяртанне да віны", але і п"есы, апавяданні.

А вось апошні час просіцца ў работу на стол яшчэ адзін раман, дзе хачу паказаць сваіх герояў у канцы вайны, пасля яе, паказаць некаторых герояў у эміграцыі. А таксама паказаць іх вяртанне на Беларусь, ужо засыпаную Чарнобылем. Мне так і здаецца, што калі я не зраблю гэтага, то будзе нядобра.

*— Тэма дружбы народаў... Па-рознаму можна ставіцца да яе. І так, як, напрыклад, ставіліся да вобраза паліцая-татарына ў вашым рамане "Плач перапёлкі". Рахіма вам раілі памяняць на рускага Сідарава... І ўсё ж, відаць, дружбы з іншымі народамі вы не цураецеся, шмат ездзіце, бываеце ў розных кутках былога Саюза, у краінах Еўропы. Што значыць дружба народаў, пачуццё інтэрнацыяналізму для вас сёння?*

— А яна — тэма дружбы народаў — для мяне і не памянялася. Мне сумна без маіх сяброў з Украіны, Расіі, Грузіі, Татарыі... Вы ведаеце, мы шмат што спаганілі! Вельмі часта жыццёвую формулу пертваралі ў пусты гук. Быццам гэтая формула жыла ў адрыве ад жыцця. Так і з дружбай народаў. Шмат гаварылі пра яе, а не заўсёды глыбока мералі. І тым не менш мяне радуе, што да вялікай варажнечы ў сваёй вялікай дзяржаве мы не дайшлі. У дружбе той мы маем цяпер патрэбу.

А варожасць, якая існуе паміж асобнымі народамі былога Савецкага Саюза, трэба залічваць у накладныя выдаткі нацыянальнага развіцця. Мы яшчэ збяромся вялікай сям"ёй. Не абавязкова ў той форме, якую ўжо мелі. Думаю, што створым штосьці новае і таксама прыгожае. Чаму я за стварэнне новага? Таму, што не хачу вяртання ў старое. Я застаўся прыхільнікам сацыялістычнага ўкладу жыцця, сацыялістычнай явы. Але таксама ж не штучнай, не прымусовай, а сапраўднай, народнай.

Нядаўна ў мяне спыталі: "Вы аптыміст?" Я адказаў: "Так, аптыміст". Хоць часам ад суму няма куды падзецца. Але будзем жыць...

*Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.*

■ Размышления вдали от парадного подъезда

# БАНАЛЬНОСТЬ ЗЛА

Еду в трамвае. Впереди меня сидят мужчины. Ведут разговор. Невольно улавливаю обрывки фраз.

— Ты читал? — спрашивает один другого и показывает заметку в газете. — Убийцы и насильники пионерского возраста... Понимаешь, они старуху ограбили, изнасиловали, задушили, а потом бросили в погреб. Вот до чего дожили!..

— Подумаешь, новость. Надоело и читать, и слушать, и смотреть на все это, — второй с явным безразличием отвернулся к окну.

Может быть, и не стоило писать об этом случайном разговоре. Но вот совсем недавно, будучи в колхозе им.И.Д.Черняховского, услышал «новость»: ночью со склада умыкнули 12 аккумуляторов, а спустя некоторое время «увели» несколько штук газовых баллонов.

Потери больно ударили по всему коллективу, восполнить их придется за счет своих тружеников. Но что меня удивило: люди отнеслись к этим кражам совершенно спокойно, без возмущения и негодования, а некоторые — с явным безразличием. Кое-кто — даже с ухмылкой:

— Молодцы, ловко грабанули, милиция на их след не может напасть.

Вспомним недалекое прошлое. С каким презрением мы осуждали воров, разбойников, рецидивистов, бандитов, не говоря уже о крупных дельцах, мафии, государственных коррупционерах, спекулянтах. Всякое зло вызывало отвращение. Общественность требовала сурового наказания преступников. Мы никак не могли смирится с тем, что у кого-то ограбили квартиру, убили человека, угнали автомашину /как можно! куда смотрит милиция! до каких пор будут продолжаться безобразия!/. Летели письма в правоохранительные органы, в правительство с требованием принять меры к нарушителям правопорядка.

И в так называемое застойное время были подобные факты, но даже тогда оценка им давалась совсем иная, чем теперь. Если бы в 80-е годы нам сказали, что в Минске и других городах республики почти легально будут промышлять проститутки, мы такого человека назвали бы сумасшедшим. А порнография? Её в те годы и в помине не было, разве только из-под полы какой-нибудь прощелыга мог предложить порнуху.

С приходом разрушительной перестройки, разнузданной демократии, свободы нравов бурный поток грязи захлестнул всех и вся. Нам в первые дни «нового мышления» казалось, что если будем информировать население о всяческих преступлениях, то их число сразу снизится, дескать, люди поймут, что это нехорошо, отметут зло, начнут духовно обогащаться. Увы, наивно было думать о каком-то улучшении криминогенной обстановки.

Сегодня изо дня в день вдалбливают в наши головы информацию о воровстве, убийствах, обмане, бесчестии... Возьмите любую газету. В ней вы обязательно найдете «изюминку», и не одну. Чего стоят лишь только заголовки: «Торговец человечиной», «Выстрелы на дороге», «Не будет денег, будут жертвы»...

Вот, скажем, попалась мне в руки газета «Труд». Целая колонка отведена ЧП в Беларуси: в Борисове в квартире найден трупик двухлетнего ребенка, в Витебске школьники ограбили коммерческий киоск, в Миорском районе пришлые грабители избили двух старух и отобрали у них имущество... Спрашивается: зачем об этом писать и кому это нужно?

Сия российская газета, как, впрочем, и другая «демпресса», с удовольствием смакует происшествия в соседних государствах, рисует мельчайшие подробности преступлений, расписывает, как и каким путем разбойник бил, грабил, как удалось «герою» нашего времени победить в схватке за бешеные деньги. Беда в том, что ни автор, ни описываемые им события не получают должной правовой и моральной оценки.

Как-то разговорился с моим соседом по квартире, человеком, имеющим четыре диплома об окончании учебных заведений.

— Ничего в этом страшного не вижу, в цивилизованном обществе, человек волен поступать так, как он хочет...

Мне стало страшно: говорил он на полном серьезе. Придя в себя, привел ему другой факт:

— Ты видишь, как каждую неделю «молодой бизнесмен» из нашего подъезда спекулирует барахлом, в том числе и автомашинами. У него уже появилась прислуга в лице такого же проходимца: ремонтирует ему машины, моет их, утром прогревает, услужливо открывает дверцу своему боссу... Все знают, что он вор, но никто не возмущается, никому до этого дела нет...

— Этому надо только радоваться, нет тут ничего плохого, — сказал он в защиту своего коллеги, ведь и сам занимается куплей-продажей: ворон ворону глаз не выклюнет.

Так рассуждают и в кабинетах властных структур и даже «звезды».

Когда, например, у Кобзона спросили, что он думает о бандитах, то этот известный «соловей» сказал следующее:

— Они очень интересные люди. Неординарные. Причем красивые. Они никогда не обидят женщину, ребенка, старика, я в этом убежден. Вы когда-нибудь поговорите с ними об их морали. Она у них намного чище, чем у некоторых чиновников. Они отнимают у воров и отдают детям... Серьезные люди...

Журналист, услышав эти слова, не удивился, не возмутился... Плюрализм, мол, допустим в «цивилизованном» государстве, даже если он идет во вред обществу.

Человеческая натура такова, что ко всему может привыкнуть. Бывший «зэк» мне однажды рассказывал, как ему трудно было в первые дни сидеть за решеткой, но затем он пообвык и на десятом году заключения чувствовал себя в тюрьме почти как дома. Все для него тут стало обычным, повседневным.

Нечто подобное происходит и с нами. За годы перестройки, грабрыночных реформ и строительства аморфного демократического цивилизованного государства мы настолько свыклись со злом, что не желаем о нем слышать, видеть и... бороться.

Когда раньше по телевизору показывали жуткие сцены убийств, кровопролития, мы отворачивались, закрывали глаза, возмущались. Теперь показывают отрубленную окровавленную голову человека — никакой реакции, разве что иной телезритель скажет: пусть бы не лез куда не следовало...

Вечером, работая над этой статьей, включил телевизор. Идет кинофильм. Боевик высшего класса. И первые кадры — стрельба, падают трупы. Начал их считать. Фильм закончился, и я остановился на цифре «8" — не считая драк, кулачных ударов в челюсть, катастроф и аварий. В таких фильмах вы не увидите сострадания, жалости, слез, человеческой боли.

Мы привыкли к тому, что нашим повседневным спутником становится зло. И его с каждым днем все больше и больше. От равнодушия и бездействия плодятся новые изощренные преступления. Не спасают ни меры со стороны правоохранительных органов, ни разговоры о духовности, ни молитвы и обращения к всевышнему, ни подачки богатых бедным, ни помощь из-за «бугра»...

Трудно дать однозначный ответ на вопросы, как быть, что делать, где выход, но одно можно сказать: в этом безбрежном океане зла наш государственный корабль идет без руля и ветрил и никак не может взять правильный курс. А надо, ибо так бесконечно продолжаться не может.

*Анатолий СМОЛЯНКО.*



*Из Налибокской пущи местные жители разворовывают деловую древесину. Как пресечь зло? Об этом думают старший участковый инспектор Столбцовского РОВД капитан Александр **Пилинкевич** и заслуженный лесовод республики лесничий Зенон **Зеленко**, под присмотром которого находится этот район.*

*Фото Анатолия ДРОЗДОВА.*

■ Спорт

## СЯРОД ПРЫЗЁРАЎ

У пасёлку Прывольны Мінскага раёна адбылася рэспубліканская спартакіяда работнікаў спажывецкай кааперацыі.

Дастойна выступіла на ёй зборная Мінскага аблспажыўсаюза. Яна заняла другое каманднае месца, набраўшы аднолькавую суму балаў з пераможцамі — кааператарамі Брэстчыны.

Паспяхова выступілі валейбалісты Міншчыны. Мужчынская каманда, за якую выступалі пераможцы абласной спартакіяды — спартсмены Узды, заняла першае месца, а валейбалісткі Салігорскага райспажыўсаюза, якія абаранялі гонар нашай вобласці, сталі другімі прызёрамі.

У спаборніцтвах па мнагаборству «Здароўе» нашы ўдзельнікі фінішавалі трэцімі. Такі ж вынік і ў турніры па настольнаму тэнісу.

Пераможцам у турніры шашыстаў стала каманда Міншчыны, за якую выступалі Марыя Лічко і Ніна Пармон з Узды.

## АБ ПРАБЛЕМАХ ФУТБОЛА

Віцэ-прэм"ер Кабінета Міністраў Віктар Ганчар сустрэўся з кіраўніком Федэрацыі футбола Рэспублікі Беларусь Яўгенам Шунтавым. Як паведаміў карэспандэнт Белінфарма, віцэ-прэм"ер пацвердзіў, што ўрад будзе падтрымліваць Федэрацыю футбола ў ажыццяўленні задач, вызначаных яе статутам. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны праблемы развіцця футбола ў рэспубліцы, пытанні функцыяніравання нацыянальных зборных каманд, іншых падраздзяленняў Федэрацыі.

## ГАСПАДАРЫ НЕ ЎПУСЦІЛІ ШАНЦ

У нядзелю на чэмпіянаце Беларусі па футболу каманды першай лігі правялі шэсць матчаў. Ва ўсіх гэтых паядынках перамаглі гаспадары поля. З лікам 1:0 віцебскі «Лакаматыў» выйграў у «Гомсельмаша», гродзенскі «Нёман» — у тарпедаўцаў Магілёва, а рэчыцкая «Ведрыч» — у салігорскага «Шахцёра».

Пацярпела паражэнне ў Брэсце каманда «Дынама-93". Яна ўступіла мясцовым дынамаўцам — 0:2. Тарпедаўцы Мінска на сваім стадыёне адабралі два ачкі ў магілёўскага »Дняпра" — 2:1, а бабруйскі «Фандок» з лікам 3:1 нанёс паражэнне лідскаму «Абутніку».

Учора ў Бабруйску мясцовы «Шыннік» прымаў віцебскі КІМ, які лідзіруе ў чэмпіянаце. Матч клуба «Маладзечна» і дынамаўцаў Мінска перанесены на больш позні тэрмін.

## КУЛЬГАЕ "ЦІВАЛІ"

Пасля перамогі над маскоўскім «Спартаком» хакеісты мінскай каманды «Цівалі» два матчы прайгралі. У Санкт-Пецярбургу яны ўступілі мясцовым армейцам — 0:5, а потым пацярпелі паражэнне і ў Рызе — 2:4.

Учора каманда «Цівалі» прымала кіеўскі «Сокал».

## ВЫСТУПІЛІ ДАСТОЙНА

Каманда футбалістаў Мінскага прафесійнага вучылішча чыгуначнікаў прыняла ўдзел у міжнародным турніры «Рабочая змена», які праходзіў у Адлеры.

Выйграўшы ў гаспадароў поля — 6:0, Стаўрапаля — 2:0, Екацярынбурга — 1:0, Масквы — 9:0 і прайграўшы юным футбалістам Ленінградскай вобласці — 1:2, наша каманда ў стыкавой гульні аспрэчвала трэцяе прызавое месца з равеснікамі з Арзамаса і перамагла з лікам 3:0.

Лепшым нападаючым прызнаны мінчанін Руслан Наскоў.

## ЛІДЭРЫ ГУЛЯЮЦЬ З НАТХНЕННЕМ

На чэмпіянаце вобласці па футболу акрэслілася група лідэраў, якія нацэлены на ўзнагароды.

Не пакідае ніякіх шанцаў сваім сапернікам каманда «Белыя Росы» з Першай мінскай птушкафабрыкі. У васемнаццатым туры яна з лікам 7:0 нанесла паражэнне валожынскай «Іслачы» і мае цяпер 28 ачкоў. На два ачкі адстае смалявіцкі «Крышталь», які ў прайшоўшым туры перамог старобінскі «Аўтамабіліст» — 3:0.

На прызавое месца прэтэндуюць і футбалісты «Вераса» з калгаса «17-е верасня» Нясвіжскага раёна. У васемнаццатым туры яны ў гасцях вырвалі перамогу у каманды «Стара-Барысаў» — 2:1.

Наступны тур у суботу, 1 кастрычніка.

*/НАШ КАР./.*

**Калектыў аб"яднання "Мінскаблплодагароднінагас" глыбока смуткуе з выпадку трагічнай смерці агранома-агароднінавода калгаса "Палажэвічы" Старадарожскага раёна Валянціны Іванаўны МІХНАВЕЦ і выказвае глыбокае спачуванне яе родным і блізкім.**

**Калектыў аб"яднання "Мінскаблплодагароднінагас" выказвае глыбокае спачуванне старшыні аб"яднання Віктару Рыгоравічу Казеку з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — заўчаснай смерці МАЦІ.**

**Калектыў камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання аблвыканкома выказвае глыбокае спачуванне старшыні аб"яднання "Мінскаблплодагароднінагас" Віктару Рыгоравічу Казеку з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

## Хатні экран

### 27 верасня, аўторак

**Беларускае тэлебачанне**

15.40. "Нов і К"-топ-10.
16.40. ТБ — школе. Гісторыя.
17.10. "Крылы". Відэафільм.
17.30. Паэтычная гасцёўня. Вершы Генрыха Страдава.
17.50. Тэлевізійны клуб паляўнічых і рыбаловаў "Удача".
18.10. Абласныя навіны (Віцебск).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Эканамікст.
19.10. Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Прамая лінія.
20.00. Мост. Культурна-асветніцкая праграма.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Надвор'е.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Канал "Астанкіна"**

15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.25. "Вайна гобатаў". Мультсерыял.
15.50. Паміж намі, дзяўчынкамі...
16.05. Рок-урок.
16.40. За кулісамі. Інтэграцыя: іншага шляху няма.
17.25. Тэхнадром.
17.35, 20.35. Надвор'е.
17.40. Памяці Р.Раждзественскага.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. Тэма.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. З першых рук.
20.55. Футбол. Кубак УЕФА. 1/32 фіналу. "Нант" (Францыя) — "Ротар" (Валгаград).
22.50. 50 х50.
23.50. Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
15.20. Фальклорная карусель.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. Ваша права.
17.05. Чалавек справы.
17.40. Свята кожны дзень.
17.50. Ніхто не забыты.
17.55. Здарова жывеш.
18.10. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. Фільм-прэм'ер.
19.55. "Блеф, ці Гісторыя аб падмане і махлярстве". Маст.фільм.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Футбол. Кубак УЕФА. "Дынама" (Масква) — "Сэрэн" (Бельгія).

### 28 верасня, серада

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. "Дзівосны манеж".
9.00. ТБ — школе. Гісторыя.
9.30. "Маё каханне, мой смутак".
10.30. Аэробіка.
12.10. Валадарская дружына. Вялікае княства Літоўскае.
13.10. "Крылы". Відэафільм.
13.30. Навіны (з сурдаперакладам).
15.40. Відзьма-нявідзьма.
16.40. "Еўрапейскі калейдаскоп".
17.10. "Бімбат".
17.30. "Напярэдадні". Да 50-годдзя Лідскага камбіната харчовых канцэнтратаў.
17.50. Футбол. Кубак УЕФА. "Лацыо" (Італія) — "Дынама" (Мінск). Пасляслоўе да матча.
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. "Пяць зорак".
20.10. Крэда.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Надвор'е.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Канал "Астанкіна"**

5.30. Раніца.
7.00, 9.50, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
7.15. Працяг праграмы "Раніца".
8.00. Расійскі дайджэст.
8.20. "Дзікая Роза".
8.45. Дзелавы веснік.
8.55. Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
15.25. "Вайна гобатаў". Мультсерыял.
15.50. На балі ў Папялушкі.
16.05. "Лятаючы дом".
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Азбука ўласніка.
17.40. Свет сёння.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. Клуб "Белы папугай".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Маналог.
20.55. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Спартак" (Масква) — "Пары Сен-Жэрмен" (Францыя).
23.10. Праграма "У".
23.30. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Агляд.
0.40. Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Ранішні канцэрт.
8.40. "Санта-Барбара".
9.30. Рэпарцёр.
9.45. XX стагоддзе ў кадры і па-за кадрам.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Далёкі Усход.
16.50. Кліп-антракт. М.Оліне.
16.55. М-трэст.
17.10. Залатая галінка. "Манастыры Наўгародчыны".
17.40. Свята кожны дзень.
17.55. Звычайная справа.
18.10. Тэледэбаты.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Гранд-рэпартаж. "Цыганская рапсодыя".
21.05. Зала чакання. "Прызначанае банкруцтва".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Пецярбургскія сезоны.

### 8 канал

**27 сентября, вторник**

18.00 Мультсериал "Д'Артаньгав и три пса-мушкетера".
18.25 ИНТЭКС: "Новости".
18.40 Документальный фильм "Смерть в рассрочку".
19.00 Мультфильм У.Диснея "Секрет крыс". 2-я часть.
19.30 ММ-4: "Рынок".
20.00 БАНТ: "Репортаж".
20.05 Шанс-приз.
20.20 Телесериал "Двадцатое декабря". 2-я серия.
21.30 Студия "БМ": "На даху".
21.50 Ив Буассе в художественном фильме "Цена риска".

**28 сентября, среда**

18.00 Мультсериал "Д'Артаньгав и три пса-мушкетера".
18.45 СОЛТЭК: "Новости".
18.55 ММ-4: "Немецкая волна".
19.25 Мультфильм У.Диснея "Секрет крыс". 3-я часть.
20.00 МНТА: "ПИР".
20.10 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
21.25 Телесериал "Двадцатое декабря". 3-я серия.
21.30 Студия "БМ": "Рок на вакациях".
21.50 Художественный фильм "Я тебе ничего не скажу".

*Наступны нумар газеты выйдзе 1 кастрычніка.*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага, 10-А, паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна—эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацыі —68-25-03, 68-26-48, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі —68-26-65.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61, Вілейцы —(8-271)5-57-86, Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

**Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА**

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку" 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Тыраж 16580. Індэкс 63923. Зак. №103.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12